РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

ШТОТЫДНЕВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА

*N1 ( 1 ) * ПАНЯДЗЕЛАК * 14 КАСТРЫЧНІКА * КОШТ 15 КАП.*

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Да невялікага шэрагу беларускамоўных выданняў дадалося яшчэ адно — газета "Культура". Выданне гэтае з ясна акрэсленай мэтай — запоўніць "белыя плямы" ў гісторыі нашай культуры, дапамагчы ў пошуку напрамкаў, якія яна зараз выпрабоўвае, даць магчымасць усім, хто цікавіцца здабыткамі сусветнай культуры, пазнаёміцца з імі.

Сапраўды, наўрад ці можа лічыцца культурным чалавекам той, хто працуе на ніве асветніцтва, але не знаёмы з лепшымі здабыткамі сусветнай культуры. Нарэшце мы прызналі, што дзікунствам было зачыняць за сямю замкамі творы філосафаў, якія не "ўпісваліся" ў марксісцка-ленінскую канцэпцыю свету, такіх, як Шапенгаўэр, Ніцшэ, К'еркегор, або пісьменнікаў, чый светапогляд здаваўся падазроным і непрыймальным, напрыклад, Оруэла ці Кёстлера. Са спазненнем на дзесяцігоддзі "дабіраліся" да нас творы Уайлдэра, Артэгі-і-Гасэта, а з тых, што даходзілі, выдзіраліся цэлыя кавалкі. Ніцшэ, напрыклад, напісаў не толькі пра Заратустру, які стаў ўлюбёным героем гітлераўскага рэйха, ён даў свету "Нараджэнне трагедыі" — працу, якая зрабіла глыбокі ўплыў на сусветнае мастацтва. Энгельс пісаў пра ранняе хрысціянства тое, што так і не стала даступным нават інтэлігенцыі, не кажучы пра шырокага чытача. Ды і са спадчыны Леніна апошнім часам мы даведаліся шмат чаго нечаканага...

Пра гісторыю культуры Беларусі гаварыць увогуле пакутліва. У ёй зеўраюць цэлыя правалы, асабліва ў гісторыі рэлігіі ў 500-гадовай эпосе княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, асабліва ў XVII—XVIII стагоддзях. З палітычных меркаванняў закрэсліваліся цэлыя пласты культуры, а ў выніку, калі настаў пераломны час і развал былога Саюза здзейсніўся на нашых вачах, народ наш аказаўся зусім не падрыхтаваным да ўласнага вырашэння свайго лёсу, да гістарычных і тэрытарыяльных праблем, якія паўсталі перад ім. Куміры, якім яго змусілі пакланяцца, аказаліся чужымі, свае ж — апляванымі і зганьбаванымі.

У старадаўніх цывілізацыях слова "культура" перакладалася як "культ святла". Цывілізацыі, цэлыя народы, калі яны вычэрпвалі сябе, свой энергетычны патэнцыял, знікалі з твару Зямлі, але культура жыве, бо яна вышэй за нацыю. Яна тое неўміручае святло, якое асвятляе далёкія і заблытаныя шляхі чалавецтва. Гэты сэнс мы заклалі і ў сваю назву. Будзем спадзявацца, што газета з кожным нумарам давядзе святло чалавечае думкі, што нараджалася ў стагоддзях, дасць падставы разважаць аб сённяшніх шляхах культуры, дый і ўвогуле стане для вас неабходнай і жаданай. Мы добра ўсведамляем, колькі сіл і намаганняў трэба прыкласці для гэтага.

Спадзяемся на поспех!

*Супрацоўнікі штотыднёвіка.*



## "ДЗЕЦІ — НАША БУДУЧЫНЯ".

*Мы прызвычайваемся да слоў, а таму часам не разумеем іх сэнсу. "Дзеці — наша будучыня". Вядомы журналісцкі і педагагічны штамп. Але ці задумваліся мы хаця аднойчы, што за ім стаіць?*

*Не хочацца згадваць іншыя штампы, накшталт "будучыня гэтая — светлая" (яна заўсёды светлая), што адно мастацтва можа дапамагчы чалавеку "выратаваць душы нашых дзяцей", што "духоўнасць уздымае" і гэтак далей...*

*А дзеці выдатна самавыяўляюцца праз мастацтва і без прыгожай хлусні — як гэтыя хлопцы з фальклорнага ансамбля "Вясёлка"*

**На 1 верасня 1991 года ў нашай рэспубліцы было зарэгістравана 466 перыядычных выданняў, з якіх 122 — на беларускай мове, на рускай — 146, на "трасянцы" — 197.**

**Адно выданне выходзіць на польскай мове**

* * *

**У верасні жыхары Францыі, Германіі, Нідэрландаў пазнаёміліся з калектывам Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек. Пасля паспяховых гастроляў мінскага калектыву ў гэтых краінах ёсць падставы спадзявацца, што і Францыя, і Германія, і Нідэрланды прышлюць свае творчыя калектывы на Мінскі Міжнародны фестываль тэатраў лялек, які адбудзецца ў маі 1992 года. Чакаем!**

*Наталля Семяжон.*

* * *

**Рэзкае памяншэнне датацый з Усесаюзнага Літфонду паставіла пад пагрозу само існаванне Саюза пісьменнікаў Беларусі, які не мае свайго выдавецтва і атрымлівае мізэрныя адлічэнні з уласных кніг. Выдавецтва ж "Мастацкая літаратура" вымушана аддаваць прыбыткі цалкам у рэспубліканскі бюджэт. Прыватная ініцыятыва можа ўзяць на сябе выратаванне СП Беларусі, але ці пойдзе гэта на карысць літаратуры?**

*Уласная інфармацыя.*

* * *

**У наступным годзе пад шыльдай "Беларусьфільма" распачынаецца экранізацыя п'есы Янкі Купалы "Тутэйшыя". Дзяржава не здолела выдаткаваць грошы на экранізацыю, а таму давялося звярнуцца да спонсараў — фірмы "Гарант".**

**Рэжысёр кінастужкі — Валерый Панамароў, мяркуемы аўтар музыкі — Уладзімір Мулявін, кінематаграфічную версію сцэнарыя напісалі Адам Глобус, Максім Клімковіч і Міраслаў Шайбак.**

*А.С.*

* * *

**Беларуская асацыяцыя дэтэктыўнага, палітычнага і прыгодніцкага рамана распачала, нарэшце, друкаваць кнігі па-беларуску. У верасні гэтага года асацыяцыя выдала зборнік вершаў Таццяны Сапач "Восень". На чарзе — паэтычныя зборнікі Анатоля Сыса і Леаніда Галубовіча. Дарэчы, кнігі гэтыя выдаюцца паводле правапісу Тарашкевіча.**

**Артыкул пра БАДППР чытайце ў бліжэйшых нумарах "Культуры".**

*Г.І.*

* * *

**З 4 па 8 верасня тэатр-студыя Р.Таліпава браў удзел у міжнародным фэсце тэатраў у горадзе Карлсруэ (Германія). І паводле водгукаў у нямецкім друку, спектакль беларускай творчай групы — п'еса С.Мрожака "Стрыптыз" — быў сапраўднай з'явай, вельмі неардынарнай. У фэсце ўдзельнічалі тэатральныя калектывы больш чым з 20 краін.**

* * *

**Беларускі фестываль мастацтваў інвалідаў, які працягваўся амаль месяц і не так даўно закончыўся, праходзіў пад сцягам усесаюзнай акцыі "Глядзі на мяне, як на роўню".**

**Рэспубліканскі агляд самых разнастайных талентаў інвалідаў паказаў, што вельмі многія людзі, немачныя фізічна, — моцныя і багатыя душою. Пра гэта сведчылі і выстаўка творчых работ на ВДНГ Беларусі, і знаёмства з літаратурнымі творамі, і прэм'ернае прадстаўленне аўтарскай песні, і творчы семінар-практыкум самадзейных мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, і размова за "круглым сталом" на тэму "Роля творчасці ў рэабілітацыі інваліда"...**

**Будзем спадзявацца, што фестываль, які, безумоўна, зрабіўся падзеяю ў небагатым на святы жыцці інвалідаў, набудзе статус добрай традыцыі.**

* * *

**Падпісаны новы дагавор паміж Беларуссю і Польшчай, у цэнтры ўвагі — пашырэнне сувязей паміж краінамі-суседзямі, і ў першую чаргу — у галіне культуры. Удзел акцёраў Рускага драматычнага тэатра Беларусі ў міжнародным фестывалі, прысвечаным спектаклю па п'есе С.Віткевіча "Вар'ят і манашка", — праява таго, што дагавор дзейнічае. Ініцыятыва правядзення фестывалю належыць пастаноўшчыку спектакля, вядомаму польскаму рэжысёру К.Ясінскаму.**

**Спадзяемся, што ў далейшым прадстаўляць тэатральнае мастацтва Беларусі на польскай сцэне будзе не толькі Рускі тэатр...**

*А.В.*

# ЧАЛАВЕЦТВА СТАМІЛАСЯ...

Навіна імгненна абляцела свет: "Путчысты пазбавілі Гарбачова магчымасці кантраляваць баявое прымяненне савецкіх балістычных ракет". Свет быў у шоку. Мільёны людзей жылі ў трывожным чаканні: "У чыіх руках кнопкі і шыфр для пуску ракет? Ці не трапіў чорны дыпламат з кодамі ў рукі да хусейнаў савецкай гадоўлі?"

Пасля Хірасімы, Чарнобыля страх і трывога пануюць у свеце, бо пасля дзесяцігоддзяў масавай вытворчасці і безкантрольнага назапашвання ядзернай зброі чалавецтву так і не ўдалося скараціць да разумнага мінімуму яе запасы, спыніць выпрабаванні, знішчыць лішак сродкаў дастаўкі. На працягу апошніх гадоў вытворчасць ядзернай зброі не скарачалася, а ўзрастала, зброя ўдасканальвалася, што вяло да ўсё новых і новых выпрабаванняў.

Самым танным спосабам выпрабаванняў быў наземны. Нягледзячы на іх лакальны характар, радыёнукліды, што ўтвараліся пры выбухах, разносіліся ветрам на вялікія плошчы. Наземныя выпрабаванні з цягам часу спынілі ўсе дзяржавы, апроч Кітая і Францыі. Пачаліся выпрабаванні пад зямлёю, у штольнях і шахтах. Аднак высветлілася — і яны небяспечныя для прыроды. Нягледзячы на пратэсты навукоўцаў і грамадскасці, падземныя выпрабаванні ідуць і сёння. Цяпер колькасць ядзерных зарадаў у розных краінах падлічана даволі дакладна, іх дзесяткі тысяч: тут і снарады буйнакаліберной артылерыі, і авіяцыйныя бомбы, і шматзарадныя боегалоўкі для ракет. Здаецца, наспеў час канчаткова спыніць вытворчасць ядзернай зброі, але, на жаль, гэтага пакуль што не адбылося. Больш таго, узнікла рэальная небяспека з'яўлення гэтай зброі ў іншых краінах (Пакістан, Ізраіль, Іран, Ірак).

Васіль Быкаў аднойчы сказаў: "Самае страшнае на Зямлі пачнецца тады, калі ядзернай зброяй будуць валодаць краіны так званага "трэцяга свету". Можна сабе ўявіць вынікі прымянення ядзернай зброі пры сучасных масавых групоўках войскаў, пры цяперашняй канцэнтрацыі цывільнага насельніцтва ў буйных гарадах. Нават састарэлая ракета СКАД, якая знаходзіцца на ўзбраенні іракскага войска, аснашчаная ядзернай боегалоўкаю, зможа знішчыць не толькі сталіцу суседняй з Іракам дзяржавы, але і забрудзіць радыёнуклідамі памежныя краіны, выклікаць пажары ў нафтаносным рэгіёне.

Урады многіх краін выступаюць за стварэнне бяз'ядзерных зонаў: не дазваляюць заходзіць у сваю акваторыю атамным падводным лодкам, спыняюць будаўніцтва атамных электрастанцый. Краіны ж, якія ўжо маюць АЭС, робяць усё магчымае, каб захоўваць ядзерныя адкіды на тэрыторыі іншых дзяржаваў, вядома, з выплатай вялікіх кампенсацый.

Безумоўна, зрабіць Беларусь бяз'ядзернай зонай складана. Для гэтага неабходна аб'яднаць намаганні як цэнтра, так і рэспублікі. Беларусь уваходзіць у гэтак званую ваенна-стратэгічную прастору, створаную дзесяткі гадоў таму, як частка "ядзернага шчыта" былога СССР. Рэспубліка насычана практычна ўсімі відамі ядзернай зброі: ад балістычных ракет да ракет блізкай і сярэдняй дальнасці, ад авіяцыйных бомбаў да артылерыйскіх снарадаў. Увесь ядзерны патэнцыял знаходзіцца пад строгім цэнтралізаваным кантролем, гэта ўскладняе выключэнне Беларусі з агульнай сістэмы. Да таго ж на будаўніцтва новых шахтных пускавых комплексаў спатрэбяцца мільённыя выдаткі, дарэчы, як і на знішчэнне старых.

Сёння гучаць прапановы, каб частку ядзернага патэнцыялу, размешчанага на тэрыторыі Беларусі, перадаць у распараджэнне будучых нацыянальных вайсковых злучэнняў: "Усё, што знаходзіцца на нашай тэрыторыі, належыць народу".

Цяжка падлічыць выдаткі на ўтрыманне "усяго таго, што знаходзіцца на нашай тэрыторыі". Гэта і супрацьпаветраная ахова, звычайныя і ядзерныя ўзбраенні, навукаова-даследчыя інстытуты, палігоны. Гэта велізарныя грошы. Сучасная баявая тэхніка дарагая. Адна гадзіна эксплуатацыі знішчальніка МІГ-25 абыходзіцца ў 18 тысяч рублёў (у цэнах 1985 года!). Нельга забываць, што ў рэгіёне разгорнута сетка адзінай для СССР сістэмы папярэджання аб ядзерным нападзе. А яна разлічана толькі на цэнтралізаванае ўпраўленне, на недапушчэнне несанкцыяванага, аднаасобнага прыняцця рашэння па выкарыстанню ядзернай зброі. Гэта ў нас, а як у іншых? Ва ўсемагутнай Амерыцы? Там частка ядзернага патэнцыялу размешчана на сваёй тэрыторыі, на флоце, а частка тактычнай ядзернай зброі — у Заходняй Еўропе. Наспеў час і для ЗША скарачаць назапашаную зброю, але гэты працэс ідзе павольна. Міністр абароны ЗША Чэйні нядаўна зазначыў: "Аргументы на карысць абарончай ініцыятывы, мусіць, зрабіліся сёння яшчэ мацнейшымі, бо ўзнікла небяспека з'яўлення замест СССР некалькіх ядзерных дзяржаваў. Абарона Злучаных Штатаў, нашых сяброў і саюзнікаў ад магчымага ядзернага нападзення — адзін з галоўных нашых прыярытэтаў".

Асаблівую небяспеку ўяўляюць тактычныя ядзерныя ўзбраенні, бо нельга выключыць магчымасць іх захопу. Трохі суцяшае, што кіраўніцтва НАТА заявіла пра намер зняць з узбраення ядзерныя артылерыйскія снарады і ядзерныя ракеты малой дальнасці. Але ж застануцца атамныя бомбы Англіі і Францыі, французскія ракеты малой дальнасці. Выклікае сумненне і жыццяздольнасць такога прынцыпу: выкарыстаць ядзерную зброю НАТА можна толькі з агульнай згоды ўсіх дзяржаў-удзельніц. Цяжка ўявіць, каб яны прыйшлі да кансэнсусу за тыя 5 — 7 хвілін, час, адведзены на палёт ракет іх магчымага праціўніка. Хутчэй за ўсё, рашэнне будзе прымаць нехта аднаасобна.

Напрошваецца выснова: ніводная з рэспублік былога СССР не зможа ўтрымліваць цяперашнюю колькасць узбраенняў. Перш за ўсё неабходна правесці шматбаковую экспертызу, а на яе аснове і вайсковую рэформу. Ёсць падставы меркаваць, што ва ўсіх рэспубліках будуць свае вайсковыя злучэнні, задача якіх - ахова грамадскага парадку, канстытуцыйных правоў, абарона суверэнітэту, дзеянні ва ўмовах стыхійных бедстваў і іншае. Будуць створаны ведамствы-міністэрствы па абароне і дзяржаўнай бяспецы. Да іх адыдуць: кіраванне нацыянальнымі вайсковымі злучэннямі, ваенкаматы, ДТСААФ, грамадзянская абарона, пачатковая вайсковая падрыхтоўка, арганізацыя альтэрнатыўнай службы, каардынацыя дзеянняў вайсковых штабоў акруг і гэтак далей. Мусіць, будучыя міністры абароны рэспублік увойдуць у саюзны орган абароны пад кіраўніцтвам прэзідэнта краіны.

Надзвычай адказнай будзе праца з прызыўнікамі. Маладым салдатам асабліва цяжка даюцца першыя 3 месяцы службы. На гэты перыяд прыпадае найбольшая колькасць самагубстваў, дэзерцірства, непадпарадкавання. Неабходна, каб першы перыяд службы ў вучэбным падраздзяленні салдаты праходзілі недалёка ад дому, на Радзіме.

Варыянты новых структур могуць быць самымі разнастайнымі, але іх дзейнасць мусіць быць скіравана перад усім на клопат пра чалавека, на яго абароненасць. Доўгія гады ўсе грамадзяне ахвяроўвалі значную частку свайго заробку на вайсковыя ведамствы, на зброю і тэхніку, на вайсковыя патрэбы так званых "сяброў па сацыялістычным выбары", на стварэнне касмічных праграм, на бясконцыя вайсковыя вучэнні ад ротных да стратэгічных паказальнага тыпу "Захад" і "Усход", дзе былі задзейнічаны дзесяткі тысяч адзінак бранятэхнікі, самалётаў, артылерыйскіх сістэмаў, караблёў, на якія адрываліся ад спраў не толькі кадравыя вайскоўцы, а і запаснікі, якім хапала спраў і ў народнай гаспадарцы.

Каб знішчыць ядзерныя ўзбраенні, не дастаткова адной толькі волі Вярхоўнага Савета ці вайсковых ведамстваў, трэба, каб у гэтым нам пайшлі насустрач іншыя дзяржавы, перш за ўсё ЗША. Варта прыгадаць, што перагаворы аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў доўжацца вось ужо дзевяць гадоў.

Скараціць, а тым болей знішчыць іх у аднабаковым парадку, думаю, не наважыцца ні наш, ні амерыканскі бок, бо доўгі час, ды і зараз, ядзерная зброя была фактарам стрымлівання, узаемнага запалохвання. Толькі на аснове ўзаемнага даверу паміж СССР і ЗША магчыма ажыццявіць паступовае скарачэнне, а потым і поўную ліквідацыю ядзерных ўзбраенняў. Зменшацца вайсковыя бюджэты, а вызваленыя сродкі пойдуць на канверсію і іншыя мэты. Што ж тычыцца нашай рэспублікі, то, на маю думку, ёсць толькі адзін шлях: стварэнне бяз'ядзернай зоны на Беларусі, паступовае скарачэнне ядзерных боепрыпасаў, а далей, пра колькі гадоў — поўная іх ліквідацыя. Павінен быць адназначна вырашаны лёс асобных воінскіх злучэнняў, базаў.

Нядаўна ў "Аргументах і фактах" былі названыя 2 базы ядзерных бамбардзіроўшчыкаў у Беларусі. Самалёты адной з іх рэгулярна пралятаюць над горадам. А гэта — не толькі магчымая трагедыя пры любой тэхнічнай няспраўнасці — скажам, адмовяць рухавікі, але і пагроза здароўю людзей. Бамбардзіроўшчыкі ўзлятаюць на фарсажным рэжыме, ад грукату і рову якіх нікуды не схавацца. У гады, калі старшынёю Саўміна быў А.Аксёнаў, па яго заданні праводзіліся абследаванні ў бальніцах і радзільных дамах. Не памятаю зараз дакладных лічбаў, бо яны, мабыць, навекі схаваны ў архівах, або знішчаныя, але камісія ўстанавіла, што ноччу ў час пралёту над горадам дальніх бамбардзіроўшчыкаў на фарсажным рэжыме павялічвалася колькасць заўчасных родаў, сардэчных прыступаў (недзе на 14%), значна пагаршаўся стан хворых у рэаманіцыйных аддзяленнях.

Праўда, ніякіх захадаў пасля даследванняў не было зроблена, ды і самі даследванні хутка спынілі — Аксёнава накіравалі паслом у Польшчу. А што ён мог зрабіць? Ён, як, мабыць, і сённяшнія кіраўнікі, быў бяссільны перад магутным ВПК.

Чалавецтва ўжо стамілася ад малых і вялікіх войнаў. Трэба неадкладна пачаць як узаемнае, так і аднабаковае скарачэнне ядзерных узбраенняў. Чым хутчэй пойдзе гэты працэс, тым меншая будзе пагроза воінаў і ўзброеных канфліктаў, больш матэрыяльных рэсурсаў будзе накіравана на павышэнне жыццёвага ўзроўню людзей, на развіццё культуры і асветы.

*Анатоль СУЛЬЯНАЎ.*

## ГАЛЕРЭЯ



З 23 па 25 жніўня наш Палац мастацтваў быў перапоўнены наведвальнікамі. І не толькі таму, што гэта былі дні, вольныя ад працы. Дзякуючы добра арганізаванай рэкламе па радыё і тэлебачанні, тысячам людзей стала вядома пра цікавую і неардынарную выставу — прэзентацыю ўсяго толькі адной мастацкай работы, аўтарам якой з'яўляецца вядомы мастак, выдатны майстар габелена Аляксандр Цішчанка. Яго габелены ўпрыгожваюць многія афіцыйныя залы, але ў першую чаргу - тэатры нашай рэспублікі. Габелены "Беларусь", "Айчына", "Космас", "Раніца", "Абуджэнне", "Гімн вызвалення" — работы непаўторныя і па колеры, і па кампазіцыі, прасякнутыя радасцю жыцця, жыццесцвярджальнай сілай.

У гэтыя жнівеньскія дні на суд гледачоў быў выстаўлены таксама габелен. Але на гэты раз тэмай работы мастака стала бяда. Чарнобыль... Ужо пяць гадоў мы з гэтай бядой. І баліць яна кожнаму, хто мае душу. І павінна балець. Каб не забыліся, каб не звыкліся з гэтым болем, перамаглі яго.

Якія пачуцці ўзнікаюць, калі глядзіш на гэтае агромістае тканае палатно? Боль і надзея. Яны побач у душы. І не трэба нічога тлумачыць. Сапраўднае мастацтва лаканічнае, яно не патрабуе мноства слоў — яно выклікае пачуцці. І ў гэтым яго сіла.

Гэтая выстава стала аднначасова і знаёмствам, і развітаннем з выдатным творам нашага мастака. Бо ўжо 26 жніўня ён быў адпраўлены ў Нью-Йорк, дзе ва ўрачыстых абставінах будзе перададзены ў дар ААН ад імя Беларусі. Упэўнена, што гэта якраз той твор мастацтва, які сілай свайго ўздзеяння абудзіць людскія душы, абудзіць сэрцы чужой бядой... І калі хоць у адной беларускай маці замест слёз гора і адчаю зазіхацяць слёзы ўдзячнасці за выратаванае дзіця, дзякуй табе, мастацтва, дзякуй, светлы талент майстра.

ЭСЭ




*Праспект (лацінскае)— перспектыва , выгляд, від, відовішча...*

ЛЕНІНСКі праспект — мой праспект!

Чаму я так кажу і пішу? Я не жыву на праспекце, не працую, ён не носіць маё імя, ён мне не належыць... Але я люблю праспект і таму сцвярджаю, што ён мой. А калі ты, чытач, любіш яго — то ён і твой...

Каб застацца ў гісторыі, ёсць два самыя надзейныя шляхі: першы, і бадай прасцейшы — гэта нешта трэба зруйнаваць, спаліць, знішчыць; а другі — збудаваць, стварыць. У горадзе-герої Менску гэты закон відавочны, і яму ёсць шмат самых разнастайных доказаў...

Вось Пётр Машэраў зруйнаваў старажытную Нямігу — прыгажэйшы з раёнаў нашай сталіцы — і на табе: гэты акт "дойлідства", гэтае здзяйсненне экскаватараў, бульдозераў ды чыгунных баб увайшло ў гісторыю!

Асфальтаваная магістраль з аднолькавымі шматпавярховікамі афіцыйных установ носіць яго імя, — праспект Машэрава, а старажытнай Нямігі больш няма.

Рака, апетая летапісцамі, плыве ў каналізацыйных трубах, а будынкі ператварыліся ў друз ды пайшлі на падсыпку магістралі...

Праўда, можна і не руйнаваць і не будаваць, а проста мяняць назвы. Гэты "бяскрыўдны" шлях найбольш распаўсюджаны, відаць, таму, што самы танны і хуткі.

Ёсць гарады, вуліцы, краіны, заводы, фабрыкі, школы , бальніцы, якія за час свайго існавання па некалькі разоў мянялі назовы.

Мой праспект мяняў сваё імя двойчы. Я пішу "праспект", бо раней ён быў Захар'еўскай вуліцай. Дык вось, за час існавання праспектам ён быў Сталінскім, а цяпер — Ленінскі. Не выключана, што ён можа, па хуткім часе, займець новы назоў і блакітныя шыльды будуць пераробленыя. Такія тапанімічныя з'явы адбываюцца сёння паўсюль.

Цяпер час вялікіх зменаў, перабудовы, аднаўлення, але мы нічога не будуем і не перабудоўваем, а толькі гуляем словамі— змяняем назовы, бывае, вяртаем старыя. Як на маю думку, то праспекту трэба вярнуць яго сапраўднае імя, дадзенае пры будаўніцтве, — Сталінскі праспект.

Ты абурыўся, чытач? Як гэта — Сталінскі?! Як можна даваць імя тырана, забойцы і г.д.?! А чаму не? Трэба быць паслядоўным. Зрабіўся ж Жданаў Марыупалем, Калінін - Цверру, а Ленінград — Санкт-Пецярбургам...

А ў народнай тапаніміцы не абавязкова ж усе мясціны носяць імёны станоўчых герояў, ёсць і іншыя прыклады.

Гадоў дзесяць ці пятнаццаць таму круцілі па кінатэатрах дакументальную стужку "Успаміп пра будучыню", у якой яе творцы спрабавалі пераканаць у тым, што ўсе грандыёзныя пабудовы на нашай зямлі здзейсненыя з дапамогаю іншапланецян. На розных прыкладах аўтары стужкі даводзілі, што піраміды "на беразе сінеючага Ніла" пабудавалі прадстаўнікі незямных цывілізацый. Увогуле, мы любім усё грандыёзнае прыпісваць незразумелым сілам, якія звычайнай логікай вытлумачыць цяжка. Іншапланецяне — гэта прыгожа і таямніча... Але падручнікі гісторыі, па якіх я вучыўся, даводзілі, што піраміды пабудавалі рабы. У гэтым пераконвалі і малюнкі на каляровых уклейках... Праўда, намаляваць, як і напісаць, можна амаль усё — сам мастак, ведаю гэта добра...

Але размова пра праспект... Славуты Неўскі — апеты літаратарамі, мастакамі ды кінематаграфістамі, пабудавалі прыгонныя сяляне, а наш Ленінскі-Сталінскі праспект будавалі палонныя немцы ды нашы тутэйшыя людзі, якіх можна лічыць калі не рабамі, то прыгоннымі, што, зрэшты, справу не мяняе.

Вось так, чытач, іншапланецяне ў маёй свядомасці не змяшчаюцца, асабліва ў дачыненні да архітэктуры...

Уся архітэктура падзяляецца на культавую, свецкую ды прамысловую. Да культавай належаць цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэці, а вось уся астатняя, не звязаная з рэлігіяй, — лічыцца свецкай ці прамысловай. Узнікае пытанне, а ці можна наш праспект лічыць свецкай ці прамысловай архітэктурай? Здаецца, можна, але гэта толькі здаецца. А вось каб разабрацца — то трэба ведаць, што ж гэта за такое мастацтва — архітэктура?..

Нехта з вялікіх сказаў: "Архітэктура — застылая музыка". Якая ж музыка мой праспект?.. Безумоўна, марш! Калі я іду праспектам, то ногі самі адбіваюць такт вайсковага марша. Раз! Два! — грукоча нябачны барабан. Раз! Два! — па праспекце ісці лёгка, дапамагае нябачная музыка, якая ператварылася ў камень...



Да праспекта вельмі пасуе вайсковы строй. Бліскучыя гузікі з зорачкамі, пагоны, аксельбанты, глянцавыя казыркі, кукарды ды спражкі. Пасуе і зброя. Ходзяць па пляцы Перамогі маленькія мілітарысты з сапраўднымі аўтаматамі. Нясуць ганаровую варту "сыны палкоў і дочкі"...

Усе гэтыя дэталі вайсковага строю памнажаюцца і павялічваюцца архітэктурай, хаваюцца ў аздабленні праспекта, у яго цяжкаватай аблушчанай геральдыцы.

Праспект нагадвае вайскоўца, форма якога абнасілася, абтрапалася, але яшчэ выглядае дагледжанай — а сам уладальнік формы ўжо немалады чалавек, але пакуль не страціў пачуццё ягамосці...

Як не злічыць зоры на начным небе, так не злічыць іх на цяжкіх літых агароджах, на фасадах, брамах, пілястрах, на слупах і франтонах — здаецца, што яны ёсць нават на нязграбна-ўрачыстых сметніцах...

Я іду па праспекце, а па-над маёй галавой застылі разгорнутыя сцягі, з якіх цярушыцца долу несапраўдная пазалота, застылі сярпы і молаты, разгорнутыя кніжкі, цяжкія гірлянды дубовага вецця ды іншая сымболіка...

На праспекце заўжды зорны час!

Незаўважна гэтыя зоры ўвайшлі ў маю свядомасць і ззяюць каменным святлом...

"Спачатку было слова..." У мяне гэтая біблейская думка не выклікае абурэння, як у сапраўдных марксістаў — я яе прымаю...Але якое ж слова было спачатку, з пачатку стварэння праспекта?

"Ампір" — вось тое слова. Імперыя — вось яно, чароўнае слова, якое стварала ленінска-сталінскі праспект...

Я ўдыхваю і выдыхваю паветра "Ампіра" — яно надае моц, яно прымушае з годнасцю трымаць галаву і нязмушана пазіраць на замежных турыстаў, якія фатаграфуюцца побач з пустымі вазонамі аблушчанай балюстрады. Клац! шчоўкае затвор фотаапарата — і наша балюстрада з сытым немцам едзе за мяжу. Клац! Клац! Клац! Італія, Францыя, Рым, Берлін... — калоны і капітэлі Палаца прафсаюзаў спаборнічаюць з Парфенонам, а стадыён "Дынама" — з Калізеем.

Мой праспект — помнік архітэктуры сусветнага значэння, найвышэйшы ўзор дойлідства!..

Вось Вільня выдае правінцыяй, хоць помнікаў архітэктуры там куды як больш за Менск. Але там няма такога праспекта, а сапраўдная сталіца абавязкова павінна яго мець.

Менск — сталіца, бо толькі ў сталіцах ёсць такія праспекты...

Клац! Клац! Стракатыя турысты здымаюцца побач з домікам I з'езда. Побач з зялёнай крыніцай "Ампіра" . Гэта з яе выцякае праспект і нясе свае каменныя воды на Захад і Усход...

Ён задумваўся і будаваўся як бясконцы, як касмічна неабсяжны — бо працінаў адну шостую ўсёй зямлі...

Але гэтая міфічная сутнасць і міфічная велічыня ленінска-сталінскага праспекта. А на справе ён пачынаецца пляцам з помнікам правадыру, як высветлілася, у жаночым паліто, а заканчваецца Маскоўскімі могілкамі, самымі прэстыжнымі ў Менску. І гэта не выпадкова.

Так! Праспект — архітэктура культавая. Рэлігія імперыі пануе на праспекце, відаць, адна з самых моцных рэлігій. І калі я ганаруся праспектам — то ганаруся каменным маршам рабоў ...

Праспект — гэта стрыжань не толькі горада, але і маёй свядомасці. Сёння ён не належыць нікому, акрамя гісторыі, і таму кожны можа лічыць яго сваім...

А што тычыцца назову і блакітных шыльдачак, прышрубаваных да сцен, то я буду любіць праспект з любым назовам - бо назва не зменіць рэч і не зменіць сутнасць майго пачуцця.

*Уладзімір СЦЯПАН.*

# У ВЕРАСНІ 39-га...

Гэтую дату заўсёды адзначалі неяк сарамліва — з аднаго боку, у 1939 годзе адбылося вызваленне былой Заходняй Беларусі і ўз'яднанне яе з Беларуссю, з другога ж боку, для экспансіі Чырвонага Войска ў Польшчу, у склад якой, згодна Рыжскаму дагавору, была аддадзена частка нашай зямлі, не было пераканаўчага прававога акта.

Як жа прымалі заходнія беларусы гэтыя далёкія верасеньскія дні трыццаць дзевятага года? Мне даводзілася гутарыць з многімі аднавяскоўцамі, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі тых падзей. Найбольш любіць успамінаць пра тыя дні бабуля Марыя - у тыя вераснёўскія дні было ёй васемнаццаць гадоў.

— Як усё пачыналася? — бабуля ўсміхнулася і села на сваё любімае месца ля акна. — Спачатку пайшлі чуткі, што папруць палякаў, вось... і сапраўды, праз які тыдзень пачалі яны ўцякаць. На нейкі час — безуладдзе, вось і кінуліся сяляне рабаваць маёнтак пані Жаброўскай. Ну, а праз які дзень-другі, свята якраз нейкае было, цяперака і не прыпомню, бо прыбралася я зранку, а тут такі грукат пачаўся, ажно шыбы ў вокнах зазвінелі. Кінуліся мы на вуліцу, а па гасцінцы танкі грукочуць. Маладыя, змораныя салдацікі ехалі на машынах, конях, а то і фурманках. Не размаўлялі з намі, мо, загад ім такі быў, хто іх ведае.

І тут убачылі мы маладога чырвонага камандзіра. Ён крыху адстаў ад калоны, прыпыніў каня і спытаў: “Как поживаете?!” Мы прыціхлі, а тут адна яўрэйка, што краму сваю мела, яму ў адказ: “Хорошо, но ожидаем лучшего!”

А ён усміхнуўся і сказаў: “Вряд ли получше будет, хорошо и так высматриваете!” Ён прыбаднуў каня, памчаў даганяць калону. Настрой наш быў крыху сапсаваны. Вечарам у клубе быў вялікі канцэрт, людзей бітма, а на сцэне спявалі: “Кипучая, могучая, никем не победимая...”

Радаваліся, што будуць перамены, маладыя ж былі... Толькі мой бацька назаўтра ўздыхнуў і сказаў: “У Расіі калгасы, калі і ў нас будуць, то пагаладаем...”

Але калгасы ў нас пачаліся толькі пасля вайны. А ў той час амаль усё было. — Яна на хвіліну змоўкла. — Праўда, многія нашы хлопцы ў польскім войску служылі, то дасталося некаторым небаракам: хто да немцаў у палон трапіў, а хто да бальшавікоў. Бо неўзабаве ж і немец пайшоў на палякаў.

— Цікава б з кім пагутарыць, — сказаў я.

— А ты да дзеда Міколы падыдзі!

На маё пытанне аб тых падзеях ён, хітравата пазіраючы на мяне, сказаў:

— Я памятаю, як наступалі бальшавікі яшчэ ў дваццатым годзе. Хлапчуком тады быў. Як гляну — вачам не паверыў. Што за войска?! Спачатку падумаў — паўстанцы якія. Адзін у ботах, другі ў парваных чаравіках, а многія нават у звычайных расейскіх лапцях. Ідуць па вуліцы, а я на лаўку ўскараскаўся, дзіўлюся... А тут падскочыў да мяне адзін салдацік і ў адзін момант зняў з маіх штаноў дзягу. Шырокая такая была, з бліскучай спражкай. Бацька прывёз яшчэ з японскай вайны. Я ў слёзы, а вечарам і ад маці перапала — задала лупцоўку.

Ну, а пасля, — ён цяжка ўздыхнуў, — многа чаго было, кніжку можна было б напісаць. Прайшлі гады і прызвалі мяне жаўнерам у польскае войска, а тут чырвоныя наступаюць. Што зробіш супроць танкаў? А наш камандзір нам і кажа: “Танкі ў бальшавікоў з фанеры. Я першы ствол у пушкі адсяку!”

Спачатку падумаў я , што ён жартуе, ажно не... Аддае загад, і вось рассыпалася веерам наша паўсотня ў атаку на танкі. Нам пашчасціла, што камандзір у танкістаў разумным аказаўся. Убачыўшы такі цуд, ён загадаў спыніць танкі і не страляць.

Гэта нас і ўратавала. А наш камандзір на ўсім скаку даімчаў да першага танка і з усяе сілы секанууў па ствалу пушкі. Шабля ж, вядома, адскочыла. Вось тут ён і закруціўся, а мы за ім, як тыя авечкі ў статку.

Карацей кажучы — здаліся ў палон. І тут многія польскія афіцэры пачалі ў салдацкія мундзіры пераапранацца, бо іх асобна трымалі. І я чамусьці з імі аказаўся. Крычу канвойным, што я салдат, мясцовы беларус, вёску сваю называю. А яны ў адказ: “Разберёмся! Своё получишь!” Я адчуваў, што з афіцэрамі чыкацца не будуць. Колькі іх пасля расстралялі ў Катынскім лесе? Тысячы! А за што?

*Павел САВОСЬКА.*



# "СВЯТА"— ГЭТА СВЯТА!



Апошнім часам, бадай, ніводнае свята ў рэспубліцы не абыходзіцца без гэтага іскрыстага, высокапрафесійнага народнага ансамбля. Народнага — таму што ягоныя песні і танцы нарадзіліся некалі ў глыбіні народнага жыцця і цяпер, як бясцэнныя смарагды,выбліскваюць маладой неўтаймаванасцю і таямнічай дасканаласцю, таму што адшліфоўваліся ў лепшай у свеце майстэрні — народным побыце.

Гордыя, трагічныя, гарэзлівыя, льюцца і льюцца са сцэны беларускія песні. І колькі ж у іх харастваі сапраўднай, непадробнай паэзіі!

*Сасна гарэла, палала,*
*Пад ёю дзеўка стаяла...*

Бачыцца гэтая вогненная ад сонца сасна і прыгажуня-беларуска, нястомная ў працы, непераўзыдзеная ў любым умельстве, — такая, якою малюе яе перад гледачамі "зорка" ансамбля Святлана Салодкая. Салісты — а ў ансамблі амаль усе салісты — не проста спяваюць ці скачуць, яны жывуць, твораць, і нараўвасабляюцца на вачах. Гэта дасцца не толькі прафесіяй. Адчуванне, што яны, дакрануўшыся да жывой вады народнай творчасці, самі атрымліваюць ад яе сілы і талент, не праходзіць, калі слухаеш гэтых галасістых, рухавых хлопцаў і дзяўчат. Слухаеш і думаеш — колькі ж ты, мой народ, паназапашваў скарбаў, калі змог іх зберагчы ў нечуваных выпрабаваннях, дастатковых, каб толькі спарахнелы пыл застаўся ад даўніх рукапісаў, а незразумелыя нікому словы - ад мовы, якою гаварылі мільёны...

Сёння, у святочны дзень выхаду першага нумару нашай газеты — ансамбль "Свята" з намі!

---

ПОБЫТ НАШЫХ ПРОДКАЎ

# ТАКІЯ ЗВЫКЛЫЯ АЛАДКІ

ПЕРШЫЯ звесткі ў летапісах аб тым, чым і як харчаваліся нашы продкі, у большасці звязаныя з трагічнымі і сумнымі падзеямі. Вольга і Ігар сядзяць на трызне — памінках па Святаславу, з чэрапа якога, як вядома, печанегі зрабілі чашу, адкуль пілі віно. У "Хроніцы літоўскай і жмойцкай" пад годам 1320 запісана, што быў вялікі голад, "матки и отци убогие дети свои ели, иншие трупы умерлых и розмаитые гнои и плюгавства людские ели". Наша гісторыя багатая на трагічныя падзеі, ды і летапісы расказваюць найбольш аб значных і запамінальных датах — а што запамінаецца болей, чым голад і няшчасці?

У звычайныя ж дні нашы продкі мелі не багатае, але даволі разнастайнае меню. У рэках і азёрах было шмат рыбы, у летапісах успамінаецца аб багатых паляваннях: "зайцов, лисиц, куниц и иншого зверу в тороках... возили, зверу теж великого, лосей, еленей, сарн полны возы многие наклали". Паведамляецца і аб багатых ураджаях жыта і аўса, гародніны і садавіны.

Але ў побыце кожнага народа ёсць асобныя, рытуальныя стравы, звязаныя з важнымі падзеямі. Да іх адносіцца, напрыклад, куцця, якая і дасюль не страціла свайго магічнага, таямнічага сэнсу; бабіна каша, пра якую забываюцца нават у вёсцы, нашай адвечнай хавальніцы традыцый... Да такіх страваў адносяцца і нашы такія звычайныя, здавалася б, зусім простыя і звыклыя аладкі.

Тым не меней, яны — можа, самае матэрыяльнае і найбольш трывалае ўвасабленне культу Сонца — Дажбога (Ярылы, Купалы), якому пакланяліся і якога шанавалі нашы далёкія продкі. Самыя старадаўнія яго сімвалы, — кола з кропкай пасярэдзіне, кола з шасцю восямі — захаваліся, мабыць, толькі ў разьбярстве і вышыўках. А вось без блінцоў не бывае ніводнага народнага свята, дый будзённы дзень рэдка абыходзіўся без іх. Я. Колас маляўніча і прачула напісаў пра гэта ў паэме "Новая зямля":

Пякліся гладзенькія пліткі
Блінцоў, спаднізу наздраватых,
Угору пышна, пухла ўзнятых.
... А дзеці іх даўно сачылі
І на ляту блінцы лавілі,
Заядла мазалі іх здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам
Сяго-таго для верашчакі.
Хоць невялікія прысмакі —
Цыбуля, перчык, ліст бабкоў
Ды сальца некалькі бруском,
Мука і квас — і ўся прыправа,
Але ўсё ж снеданне цікава.

У гэтых радках — не толькі перададзена паэзія звычайнага, але і дадзены амаль гатовы рэцэпт другой вельмі папулярнай на Беларусі стравы — верашчакі, якая ўжывалася разам з блінцамі. Рэцэпт жа саміх аладак надзвычай просты: муку замешваюць на заквасцы, разведзенай малаком, сыраквашай, сыроваткай. Часта, асабліва на Каляды, бліны пасыпалі цёртым макам (цяпер, вядома, мак знік з нашага побыту гэтак жа, як і многае іншае). Соду і дрожджы сталі дадаваць пазней.

Гарачы, круглы, пульхны блін на патэльні — ешце на здароўе!

* * *

**Пачынаючы рубрыку "Побыт нашых продкаў", рэдакцыя мяркуе знаёміць нашых чытачоў з разнастайнымі звычаямі, рэаліямі побыту беларусаў — адзеннем, абуткам, стравамі, гісторыяй узнікнення тых ці іншых асаблівасцей народнага жыцця.**

**Наша "сялянская Атлантыда", як назваў вёску пісьменнік Алесь Адамовіч, нягледзячы на татальнае вынішчэнне яе стыхіі, усё ж захавала, нават на падсвядомым узроўні, сувязь з глыбіннымі традыцыямі продкаў.**

**Таму звяртаемся да нашых чытачоў - дасылайце нам апавяды пра разнастайныя звычаі вашага краю, вёскі, ваколіцы, апісанні найбольш цікавых народных страваў. У сярэдзіне 1992 г., пад Каляды, рэдакцыя мяркуе вызначыць найбольш цікавы матэрыял і прызначыла для гэтага прызы.**

**Чакаем вашых лістоў!**


Культура

Штотыднёвая грамадска-асветніцкая газета

Выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Рэдакцыя:

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Таццяна ДЗМІТРУСЁВА — намеснік галоўнага рэдактара

Уладзіслаў АХРОМЕНКА — адказны сакратар

Павел САВОСЬКА

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА

Наталля СЯМІЖОНОВА

Наталля ЗЕМЛЯКОВА

Алена ТАБОРАВА

Анатоль КАЛЯДА

Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД

Тэхнічны рэдактар — Дзіна КІРЫЛАВА

Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:

220030
МІНСК (МЕНСК), вул. КІРАВА 25, кв. 10

Тэлефон 27-66-89

Фармат А3
Індэкс 63875
Тыраж 10 000
Замова 1593/01

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом Друку". 220041, Мінск (Менск), Ленінскі праспект, 79

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Друкары:

1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.